**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№46 (710) 14 лістапада 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Апошнія дні восені.

## У Беларусі распрацаваны праект указа аб увядзенні падатку для лайдакоў

У Беларусі распрацаваны праект указа аб увядзенні падатку з непрацуючых грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фарміраванні даходнай часткі бюджэту шляхам выплаты падаткаў, але пры гэтым з'яўляюцца спажыўцамі сацыяльных паслуг. Аб гэтым заявіла начальнік галоўнага ўпраўлення фінансавання сацыяльнай сферы і навукі Міністэрства фінансаў Святлана Крэтава на пашыраным пасяджэнні ў Палаце прадстаўнікоў, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

«Цяпер ва ўрадзе разглядаецца пытанне аб устанаўленні падатку для грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фарміраванні даходнай часткі бюджэту шляхам выплаты падаткаў, паколькі нідзе фармальна не працуюць, але карыстаюцца сацыяльнымі дабротамі, якія фінансуюцца з бюджэту», - сказала Святлана Крэтава.

Паводле яе слоў, у праекце прапануецца ўстанавіць штогадовы плацеж у памеры Br2,6 млн. Гэтыя сродкі плануецца накіроўваць на фінансаванне сацыяльнай сферы. У дакуменце таксама вызначана катэгорыя грамадзян, якіх «можна аднесці да лайдакоў».

Праект указа цяпер разглядаецца зацікаўленымі дзяржорганамі.

*БЕЛТА*

**Пастаўскі раён**

# Намеры на паперы

■ Чэслаў Якубовіч

**Найбольшую трывогу зараз выклікае стан спраў у айчыннай гаспадарцы, куды ўклалі велізарныя сродкі, далі шмат новай тэхнікі, абнавілі фермы.**

Аднак ніякай аддачы АПК не дае, а на Віцебшчыне большасць гаспадарак ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. Вось і ў буйным Пастаўскім раёне ў пачатку кастрычніка 12 з 14 мясцовых гаспадарак не разлічыліся своечасова са сваімі работнікамі за працу ў жніўні ў памеры 4,2 млрд. рублёў. У гэты час года бывае найбольшы аб'ём выручкі, аднак у раёне, як і ў астатніх у Прыдзвінні, не былі выплачаны і яшчэ 1 млрд. рублёў ліпеньскіх заробкаў. Праўда, былі прыняты ўладай розныя адміністрацыйныя меры і большую частку запазычанасці на Пастаўшчыне ліквідавалі, грошы людзям неяк адшукалі выплаціць, але праблема засталася. Справа ў тым, што на вёсцы малыя аб'ёмы прадукцыі, квітнее безгаспадарчасць, а калгаснікі ўжо прывучаны жыць у доўг і не збіраюцца мяняць адносіны да працы на зямлі. Як паказалі праверкі, на многіх фермах жывёла стаіць цяпер недакормленай, у памяшканнях антысанітарыя, не арганізуюцца прагулкі кароў на свежым паветры. У выніку па раёне недабор малочнай прадукцыі да ўзроўню мінулага складае пад 30 тон кожныя суткі. Акрамя гэтага гаспадаркі краю перасталі плаціць за спажытую электраэнергію і завінавацілі больш 713 млн. рублёў. Узнікла складаная сітуацыя з плацяжамі ў Фонд сацыяльнай абароны, а даўгі па падаходным падатку перавысілі 3 млрд. рублёў. Дарэчы, падобны малюнак ужо у 19 з 22 рэгіёнаў вобласці.

**Глыбоцкі раён**

# Справа дзядзькі Язэпа жыве

■ Станіслаў Раманчук

**Глыбоччына падаравала чалавецтву шмат знакамітых людзей, а сам горад вельмі змяніўся пасля прайшоўшых летась урачыстасцей з нагоды Дня беларускага пісьменства.**

Райцэнтр упрыгожыла тады ўнікальная ў краіне алея ў скверы слынных землякоў, дзе сярод 8 бюстаў з'явілася і постаць мастака-этнографа Язэпа Драздовіча. Яго помнікі і вуліцы, нават цэлы музей ёсць у розных кутках краіны, а ў самім Глыбокім імя творцы прысвоена дзіцячай мясцовай школе. У мінулым годзе не паспелі будынак давесці да ладу, а днямі прайшла ўрачыстая цырымонія адкрыцця школы юных талентаў пасля капітальнага абнаўлення. Ганаровым госцем на ўрачыстасцях стаў кіраўнік беларускага парламента Уладзімір Андрэйчанка, які перадаў калектыву сертыфікат у суме 15 млн. рублёў на набыццё камп'ютарнай тэхнікі. Сам жа будынак школы мастацтваў цяпер стала проста не пазнаць, настолькі ён прыгожа выглядае, як звонку, так і ў саміх памяшканнях, дзе ўсё зроблена па еўрастандартах. Пакоі для заняткаў жывапісам сталі светлыя, цёплыя і ўтульныя, а ў адным з вучэбных класаў адбылося невялікае тэатралізаванае прадстаўленне пра майстра і яго вучняў. Аб тым, што тут жыве дух сапраўднага мастацтва і цягі да прыгожага, засведчыла выстава лепшых работ выхаванцаў мастацкай школы, у якой займаюцца каля ста юных талентаў розных узростаў. Глыбока сімвалічна, што такая прыемная падзея адбылася сёлета, калі адзначаецца юбілей, 125-годдзе з дня народзінаў Язэпа Драздовіча (1888-1954). Выхаванцам школы, дарэчы, быў перададзены, як мяркуюць, і адзін з яго "маляваных дываноў" у падарунак, бо да спадчыны Драздовіча нашчадкі будуць вяртацца бясконца.

**Пастаўскі раён**

# Ёсць таленты ў глыбінцы

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у аддаленых рэгіёнах і малых гарадах сутыкнуліся з недахопам спецыялістаў у розных сферах дзейнасці з-за іх ад'езду на большыя заробкі за граніцу.**

Не пазбегнуў гэтых праблем і Пастаўскі раён, дзе на шчасце ёсць яшчэ шмат сапраўдных прафесіяналаў. Адразу некалькі ўзнагарод заваявалі мясцовыя хлебапёкі і кандытары на нядаўна прайшоўшай ў беларускай сталіцы ІХ Міжнароднай спецыялізаванай выставе-конкурсе "Хлебная і кандытарская справа". Майстар-кандытар супермаркета "Цэнтральны" з райцэнтра Святлана Карандашова заняла 3 месца на міжнародным чэмпіянаце па кандытарскім майстэрстве са сваёй работай "Баль кветак". Дамоў у Паставы прывезлі залатыя медалі хлеб таставы "Класічны" мясцовага хлебазавода і торт "Спакуса" новага кандытарскага камбіната райпо. Перад гэтым повар каапгандлю № 2 Галіна Зямчонак заняла 2 месца на рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства "Залаты кіцель-2013", а яе фірменная страва з птушкі была прызнана лепшай у Беларусі. На рэспубліканскі чэмпіянат па цырульніцкім майстэрстве запрасілі майстру жаночай залы парыкмахерскай РКБА ў райцэнтры Анастасію Ляпіліну, якая нечакана для ўсіх заваявала трэці прыз на аналагічных абласных спаборніцтвах "Стыль і прыгажосць". У чарговы раз бліскуча праявілі сябе і пастаўскія музыканты. На прайшоўшым у Расіі міжнародным фестывалі-конкурсе выканаўцаў на шматструнных народных інструментах яны прывезлі на радзіму тры дыпломы лаўрэатаў. Пераможцам гэтага конкурсу стала мясцовая зорка, зараз навучэнка гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Аляксандра Барысюк, якая проста віртуозна іграе на цымбалах.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 14.11.13 | | | | Пятніца 15.11.13 | | | | Субота 16.11.13 | | | | Нядзеля 17.11.13 | | | | Пнд.18.11.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +2 | +5 | +2 | +1 | +2 | +4 | +3 | +1 | 0 | +2 | +4 | +5 | +6 | +7 | +7 | +4 | -1 | +5 |
| Ціск | 749 | 750 | 750 | 752 | 755 | 756 | 756 | 755 | 754 | 751 | 748 | 746 | 746 | 745 | 745 | 747 | 752 | 754 | 755 |
| Вільготнасць | 95 | 97 | 87 | 95 | 99 | 98 | 92 | 91 | 94 | 92 | 91 | 95 | 98 | 95 | 91 | 93 | 97 | 98 | 79 |
| Вецер м/сек | 3 З | 3 З | 3 З | 1 З | 1 З | 2 Пд | 3 З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 5 Пд-З | 5 З | 4 З | 4 Пд-З | 6 З | 5 З | 4 З | 2 Пн-З | 1 Пд-У | 4 Пд |

# Аб самым надзённым

## БОЛЬШАСЦЬ ПРАГНОЗНЫХ ПАРАМЕТРАЎ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ СЁЛЕТА НЕ БУДУЦЬ ВЫКАНАНЫ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Нам сталі гаварыць, што трэба жыць па сродках. А паколькі іх не хапае на ўсіх узроўнях, то і растуць цэны. Упэўненасці ў светлым заўтрашнім дні ўжо, бадай, няма ні ва ўрадзе, ні ў Нацбанку, хоць яны абавязаны падтрымліваць аптымізм і быццам намецілі на будучы год зноў рост ВУП каля 3 %.**

Да заканчэння гэтага няпростага года засталіся лічаныя тыдні. Але ўжо не толькі спецыялістам, але і большасці радавых грамадзян відавочна, што з амбіцыйным прагнозам свайго развіцця ў 2013 годзе Беларусь не справіцца, нават з трэскам яго праваліла. Не стаў з гэтым тэзісам спрачацца днямі і першы віцэ-прэм'ер урада РБ Уладзімір Сямашка, калі рабіў справаздачу перад дэпутатамі і сенатарамі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу. Яшчэ больш заклапочанасцей накont будучага краіны было і ва ўдзельнікаў прайшоўшага ў беларускай сталіцы чарговага, 73-га пасяджэння Рэспубліканскага клуба дырэктараў.

Як вядома, канкрэтныя лічбы рэальнага становішча спраў прыводзяць зусім не той малюнак, які ўбачыш па тэлебачанні, альбо прачытаеш у дзяржаўных СМІ. Нагадаем, на гэты год кіраўнік дзяржавы сваім указам зацвердзіў паказчык росту ВУП на 8,5 %. У студзені-верасні не было ні росту, а наадварот прамысловая вытворчасць у Беларусі склала толькі 95,4 % да ўзроўню мінулага года пры перапоўненых складах з нерэалізаванай гатовай прадукцыяй. У лепшым выпадку, магчыма, яшчэ адбудуцца зрухі да лепшага, складскія запасы крыху паменеюць, але ўсё роўна рост ВУП Беларусі да Новага года складзе толькі каля 1,3 %.

А гэта ж, як казалі раней, трэці рашаючы год чарговай пяцігодкі. Ужо і простыя людзі непакояцца, што нешта зламалася ў дзяржаўным механізме дырэктыўнага кіравання эканомікай, яна стала прабуксоўваць і прывяла да крызісных з'яў. Толькі ў адным беларусам няма роўных на планеце і ў Еўропе. Мы - па-ранейшаму – безумоўныя "лідары" па росце цэн, абганяем усіх пры сваёй праслаўтай стабільнасці і цязе да цвёрдага парадку. З пачатку года за 3 кварталы паказчык інфляцыі ў нас склаў 10 %. Пры гэтым у ідучай другой на кантыненце па росце цэн Турцыі яны выраслі толькі на 5 %.

Заўважым, што і раней у 2011 і ў 2012 гадах Беларусі з тэмпамі інфляцыі і абясцэньвання сваёй нацвалюты не было роўных у свеце. Сумна ўсё гэта ўсведамляць, асабліва на фоне ахопленай крызісам Грэцыі, бо для грэкаў цэны сёлета знізіліся на 1,2 % да леташняга ўзроўню. Дарэчы, крыху лягчэй сёлета жылося таксама і балгарам, блізкім нам на постсавецкай прасторы латышам, грузінам і нават украінцам, у якіх дэфляцыя зафіксавана на ўзроўні 0,2-1,3 %. Вось Украіну зараз асабліва нацыяналісты-маскалі, крамлёўскія СМІ і расійскія кіраўнікі палохаюць новымі бедамі і ўзрушэннямі, калі яна падпіша дагавор з Брусселем і далучыцца да зоны свабоднага гандлю з ЕС.

Канешне, з цягам часу пабачым, як будуць жыць нашы суседзі, але чамусьці верыцца, што ўкраінцам горш не стане. Не такія яны дурныя, што хочуць жыць па-іншаму, чым беларусы тыя ж, выбралі для сябе накірунак еўраінтэграцыі. Дарэчы, зараз Украіна па аб'ёме свайго ВУП знаходзіцца на 38-м месцы ў свеце. Нават яе лідары: прэзідэнт з беларускімі каранямі і прэм'ер – рускі па нацыянальнасці ўпэўнены, што асацыяцыя з ЕС дапаможа ўкраінцам да 2020 года ўвайсці ў лік 20 вядучых эканомік свету. Дагэтуль з Масквы яны бачылі толькі шалёныя цэны на газ і нафту, а з Захаду атрымаюць перадавыя тэхналогіі, прыток інвестыцый, магчымасць стварэння сумесных вытворчасцей з вядучымі еўрапейскімі фірмамі.

А што нам дало членства ў Мытным саюзе і ў патэнцыйнай АЭП? У парламенце віцэ-прэм'ер сказаў горкую праўду, што беларускія вытворцы толькі прайгралі і сталі губляць цэлыя нішы на рынку Мытнага саюза з РФ і Казахстанам. Сёлета Беларусь з Усходу атрымала толькі абмежаванні паставак нафты, у выніку калійнага крызісу таксама страціла паўмільярда долараў і каля 1,8 % росту ВУП. Эфектыўнасць айчыннай эканомікі падае, уступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю прынесла нам толькі дадатковыя цяжкасці. Маштабная праграма мадэрнізацыі не выконваецца і намеціўся ўстойлівы рост міграцыі кваліфікаванай рабочай сілы з Беларусі за граніцу, найперш усяго ў Расію.

Нам сталі гаварыць, што трэба жыць па сродках. А паколькі іх не хапае на ўсіх узроўнях, то і растуць цэны. Упэўненасці ў светлым заўтрашнім дні ўжо, бадай, няма ні ва ўрадзе, ні ў Нацбанку, хоць яны абавязаны падтрымліваць аптымізм і быццам намецілі на будучы год зноў рост ВУП каля 3 %. Не густа, але дзяржупраўленцы спадзяюцца на рост знешняга попыту, хоць пакуль і не ведаюць, дзе краіна адшукае да канца года недастаючых 2,5 млрд. долараў. Вось так мы і жывём, нібыта на парахавой бочцы, баючыся, што ірвануць можа ў любы момант. Рыхтуючыся да светлых калядных і навагодніх святаў, не будзем аднак забываць, што даўгі нашых прадпрыемстваў зашкальваюць і ўжо перавысілі ў 1,5 разы ВУП усёй краіны…

## Дзень за днём

**У Беларусі адпусцілі цэны на раней сацыяльна значныя мясапрадукты, сыры і рыбу. Праезд у цягніках і электрычках істотна падаражэў на 50 % услед за тарыфамі на свет і газ. У верасні адмоўнае знешнегандлёвае сальда краіны вырасла яшчэ на 500 мільёнаў долараў . Місія МВФ выказала глыбокую занепакоенасць сітуацыяй у беларускай эканоміцы. Вырашана спрасціць для беларусаў працэдуры перапланіроўкі жылля, але ўсе айчынныя дзяржбанкі спынілі выдачу крэдытаў на яго пакупку. Ураганны вецер абясточыў больш 200 вёсак Віцебшчыны, найбольш сур'ёзна пацярпелі Глыбоцкі і Полацкі раёны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Ваенныя самалёты краіны нанеслі моцны ўдар па ваеннай базе ў Сірыі, на якой знаходзіліся ракеты для перадачы баевікам ісламісцкага руху "Хезбола".

**Расія.** Урад РФ падтрымаў прапанову "Газпрама" аб пераводзе паставак газу для Украіны на папярэднюю аплату, для украінцаў Крэмль прадае паліва па самай высокай цане ў Еўропе.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама загадаў Агенству нацыянальнай бяспекі спыніць праслухоўванне будынкаў штаб-кватэр ААН, МВФ і Сусветнага банку.

**Пакістан.** З дапамогай самалёта-беспілотніка спецслужбы ЗША знішчылі лідара –фанатыка тэрарыстаў руху "Талібан" Мексуда, ён быў адказны за гібель тысяч людзей.

**Нігерыя.** Баевікі-ісламісты ў штаце Борна напалі на гасцей вясельнай цырымоніі і забілі больш 30 чалавек, гэта банда, якая не прымае заходняй цывілізацыі, забіла сёлета сотні людзей.

**Іспанія.** Пасля 2 гадоў сур'ёзнай рэцэсіі і спаду вытворчасці ў эканоміцы пачаўся рост, ВУП краіны вырас на 0,1%, павялічыўся экспарт тавараў, узнік турыстычны бум.

**Канада.** З-за моцнага недахопу рабочых рук урад краіны вырашыў прыняць на пастаянную працу ў будучым годзе ад 240 да 265 тысяч імігрантаў, спецыялістаў у розных галінах эканомікі.

**Кітай.** Чыноўнікам і партфункцыянерам краіны забаранілі арганізоўваць прыёмы і святы за дзяржаўны кошт, ездзіць на шыкоўных аўто і весці бізнес пасля 70 гадоў.

**Эстонія.** Суд пакараў 15 гадамі турмы яшчэ аднаго супрацоўніка Камітэта дзяржаўнай бяспекі і потым Паліцыі бяспекі У. Вейтмана, які працаваў на спецслужбы Расіі і перадаваў сакрэтныя матэрыялы.

**Літва.** У адпаведнасці з заканадаўствам папулярная газета "Комсомольская правда в Литве" стала выходзіць з лагатыпам без савецкіх сімвалаў Леніна, сярпа і молата.

**Партугалія.** Пасля 6 гадоў расследвання паліцыя назвала патэнцыйнага забойцу 3-х гадовай дзяўчынкі з Англіі – работніка гатэля, які аднак загінуў у аўтакатастрофе.

**Індыя.** У згарэўшым турыстычным аўтобусе ў штаце Андхра-Прадэш загінулі раніцай 44 пасажыры, краіна займае 1-е месца ў свеце па колькасці дарожна-транспартных здарэнняў, тут гіне штогод да 150 тысяч чалавек.

**Германія.** Краіна стала першай у свеце, дзе юрыдычна афіцыйна прызналі трэці пол, сярод немцаў амаль 2 тысячы чалавек з палавымі прыкметамі мужчыны і жанчыны.

**ЗША.** Дзяўчына варатара "Каларада" і хакейнай зборнай Расіі расказала, што яе каханы Сямён Варламаў – грубы чалавек і становіцца проста зверам, калі стане моцна выпіваць.

**Турцыя.** Міністр замежных спраў А. Давутоглу пацвердзіў, што ўжо да канца года можа быць уведзены рэжым бязвізавых паездак грамадзян паміж Турцыяй і Беларуссю.

**Расія.** Бегламу экс-супрацоўніку ЦРУ ЗША Эдварду Сноўдэну прадаставілі працу праграмістам на буйным расійскім сайце па развіцці яго рэсурсаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава місіі МВФ Дэвід Хофман заявіў, што Беларусі цяжка будзе атрымаць новы крэдыт, рэкамендаваў павысіць тарыфы ЖКГ, захоўваць гібкі абменны курс нацвалюты.

**Астравец.** Кампанія "Атамэнергамаш" адгрузіла для будучай Беларускай АЭС сваю спецыяльную сістэму абароны атамнай станцыі ў выпадку аварыйнай сітуацыі.

**Мінск.** Сталінскі рэжым да вайны, як паведаміў гісторык Ігар Кузняцоў, рэпрэсаваў больш 1,6 млн. беларусаў, НКУС расстраляў 377 тысяч "польскіх шпіёнаў" і "ворагаў народа".

**Ляхавічы.** Пасля сваркі з маці на гарышчы хлева ў двары дома павесіўся 14-гадовы падлетак, напярэдадні ён без дазволу ўзяў у брата матацыкл і 2 млн. рублёў і ўзнік скандал

**Мінск.** Па выніках года, як прызнаў начальнік упраўлення Нацбанка Беларусі Д. Калечыц, інфляцыя будзе вышэй запланаваных 12 %, рост цэн прадоўжыцца і ў наступным 2014 г.

**Гродна.** Кіраўніцтва МУС Беларусі ўзнагародзіла 24-гадовую работніцу "Азота", якая дапамагла міліцыі затрымаць групу хуліганаў і смела скруціла нават аднаго з іх - вярзілу.

**Брэст.** Былога афіцэра міліцыі асудзілі на 2,5 гады калоніі за ДТЗ летам пры выездзе з горада, у якім ён на шалёнай хуткасці задавіў насмерць на БМВ 48-гадовую жанчыну.

**Пружаны.** У райцэнтры пахавалі маці 11 дзяцей з дзіцячага дому сямейнага тыпу, якая павесілася, бо не вытрывала зняваг і абраз, быццам яна нажываецца на чужым горы.

**Аляхновічы.** Трое маладых хлопцаў загінулі позна вечарам на машыне на чыгуначным пераездзе, калі на машыне выскачылі на забараняльны сігнал светлафора пад цягнік.

**Смалявічы.** На сесіі райсавета дэпутатаў вырашылі даць адной з вуліц новага мікрараёна катэджнай забудовы найменне ў гонар знакамітага айчыннага пісьменніка Васіля Быкава.

**Салігорск.** Супраць 15-гадовага падлетка распачалі крымінальную справу за пагрозу па тэлефоне "ўзарваць" райаддзел міліцыі, ён раней быў тут на ўліку ў інспекцыі.

**Пухавічы.** На будынку Турынскай СШ адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар Янкі Маўра, у свой час тут ён адпачываў на Свіслачы і напісаў "Палескіх рабінзонаў".

**Ваўкавыск.** Пажылая жанчына-дворнік трагічна загінула на АЗС, калі падмятала тэрыторыю запраўкі, яе заціснула паміж дзвюма фурамі, на працу прыйшла 3 тыдні назад.

**Брэст.** Праз суд незаконна звольнены 2 гады назад рабочы змог дабіцца справядлівасці і адсудзіць у свайго спецыялізаванага канструктарскага бюро 35 мільёнаў рублёў кампенсацыі.

**Мінск.** Любімы народам акцёр М. Карачанцаў праз 8 гадоў пасля цяжкай траўмы зняўся ўпершыню ў працягу славутай кінакамедыі "Белыя росы-2" у адным з эпізодаў фільма.

## Працэдуры перапланіроўкі жылля ў Беларусі будуць спрошчаныя



■ БелТА

**Рашэнне аб неабходнасці іх перагляду было прынятае ўчора на калегіі Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, якая прайшла з удзелам усіх зацікаўленых бакоў.**

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў звярнуў увагу прысутных на вялікую колькасць скаргаў грамадзян з нагоды складаных працэдур узгаднення перапланіроўкі жылых памяшканняў. Ён нагадаў, што ў маі 2013 Савет Міністраў прыняў пастанову №384, якой быў канкрэтызаваны пералік работ, што адносяцца да перабудовы і перапланіроўкі. Такія працы патрабуюць распрацоўкі праектнай дакументацыі і атрымання ўзгаднення ў мясцовых выканаўчых органах. Дакумент сабраў разам усе патрабаванні што да пытанняў перапланіроўкі, аднак у той жа час пацягнуў цэлы шэраг праблемных момантаў.

Як зазначыў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Валерый Міцкевіч, замест спрашчэння і павышэння празрыстасці гэтых працэдур мае месца іх ускладненне: уводзяцца новыя дзеянні, узгадненні, пашыраецца кола работ, якія патрабуюць дазволу выканкама і распрацоўкі праектнай дакументацыі.

«Людзі ўвесь час скардзяцца, што ўзгадненне перабудовы і перапланіроўкі шматэтапнае і заблытанае.

Даходзіць да таго, што ў кожным раёне Мінска можа дзейнічаць свой асаблівы парадак узгаднення. У выніку для атрымання неабходнага ўзгаднення нават па элементарных работах можна хадзіць па розных інстанцыях ледзь не паўгода», — сказаў Валерый Міцкевіч.

Ён падкрэсліў, што пераважная большасць праектных арганізацый адмаўляецца брацца за распрацоўку праектнай дакументацыі для дробных кватэрных работ. На яго думку, такая сітуацыя стварае спрыяльную глебу для пасярэднікаў, якія нажываюцца на распрацоўцы праектаў і іх узгадненні, а такім чынам, і для ўзнікнення карупцыйных праяваў.

Андрэй Кабякоў лічыць, што мусіць быць створаная гранічна простая і зразумелая для грамадзян сістэма.

«Павінныя быць стандартныя, выразныя патрабаванні да патрэбных работ. Не трэба ніякіх узгадненняў, але калі пасля выканання гэтых работ да цябе ўзнікнуць прэтэнзіі, высветліцца, што ты зрабіў перабудову з парушэннем патрабаванняў,—адказваеш на поўную катушку, — адзначыў кіраўнік Адміністрацыі. — Інакш мы ўсіх людзей у чэргі паставім».

«Так, ёсць тыя, хто ўсталёўвае басейны на апошнім паверсе, але каб змагацца з імі, мы прымушаем 95% добрапрыстойных грамадзян праходзіць гэтыя працэдуры», — дадаў Андрэй Кабякоў.

Ён таксама падкрэсліў, што спрашчэнне працэдур не павінна тычыцца капітальных работ і тых дзеянняў, якія парушаюць бяспеку жыцця грамадзян.

Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Андрэй Шорац прызнаў, што праблема існуе, і адзначыў гатоўнасць ведамства працаваць над аптымізацыяй працэсаў.

У выніку дыскусіі прысутныя прыйшлі да высновы, што пастанову неабходна дапрацаваць, перагледзець колькасць працэдур і спрасціць парадак іх ажыццяўлення. На дапрацоўку пастановы адведзена два месяцы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На ўліку па паляпшэнні жыллёвых умоў у вобласці знаходзяцца 72 тысячы жыхароў, сёлета пабудавалі за 9 месяцаў жылля толькі 36,4 % ад гадавога задання.

**Талачын.** Мясцовы кансервавы завод пачаў узводзіць другое па ліку сучаснае бульбасховішча для 12 тысяч тон клубняў, яго здаць у эксплуатацыю плануюць у 2014 г.

**Верхнядзвінск.** Аб'яднанне "Віцебскэнерга" заключыла дагавор з кампаніяй з Турцыі на пабудову да 2018 года на Заходняй Дзвіне Верхнядзвінскай ГЭС магутнасцю 20 МВт.

**Віцебск.** Абутковая кампанія "Марко" выйшла са сваёй прадукцыяй на рынак Казахстана і да Новага года адкрые першыя два свае фірменныя магазіны ў горадзе Алматы.

**Орша.** Сельгаспрадпрыемства "Радуньскае" перадало падшэфнай Забалацкай СШ 1,5 гектара свайго саду, у школы ёсць яшчэ 50 яблынь, яна прадала яблыкаў на 4,2 мільёнаў рублёў.

**Браслаў.** Да дысцыплінарнай адказнасці Камітэт дзяржаўнага кантролю прыцягнуў двух кіраўнікоў гаспадарак раёна за нерэагаванне на крытычныя матэрыялы ў СМІ.

**Паставы.** Вядучая гаспадарка краю "Хаціль-агра" запусціла ў эксплуатацыю свой мінікамбікормавы завод, набыла сучасны французскі самаходны апырсквальнік палеткаў.

**Шуміліна.** Побач з Обальскай СШ у прыгожым месцы ля дарогі паўстала праз 5 гадоў будаўніцтва прыгожая царква ў старажытным візантыйскім стылі, яе адкрыццё намечана налета.

**Віцебск.** Раніцай моцны вецер паваліў дрэва на вуліцы Ленінградскай, яно звалілася і пратараніла мікрааўтобус, 29-гадоваму пасажыру зламала руку, кіроўцу заблакіравала.

**Лепель.** Вечарам а 9-й гадзіне 43-гадовы жыхар райцэнтра не справіўся з кіраваннем Міцубісі, зляцеў з дарогі ў кювет і загінуў разам з пасажыркай, 49-гадовай зямлячкай.

**Орша.** Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт абнадзеіў гараджан, што дапаможа адрэстаўраваць помнік архітэктуры – кляштар базыльянаў, які без даху разбураецца.

**Браслаў.** Вечарам мінчанін ляцеў па горадзе на шыкоўным БМВ, як шалёны, перавярнуўся на хуткасці, знёс 2 дрэвы і слупы, абясточыў цэлую вуліцу, людзі не пацярпелі ў ДТЗ.

**Шаркаўшчына.** Падчас акцыі "Чысты лес" вучні Лужкоўскай СШ зрабілі яшчэ больш прыгожай сваю экалагічную сцяжынку даўжынёй 2 км, убралі ўсё смецце.

**Полацк.** Для спартсменаў інвалідаў-калясачнікаў адкрылі новую спецыялізаваную залу фехтавання, палачане складаюць аснову гэтай параалімпійскай зборнай Беларусі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Зміцер Лупач,
*тэкст і фота.*

# Слаўны сын глыбоцкай зямлі

## Да 130 годдзя з дня нараджэння нашага славутага земляка Вацлава Ластоўскага

На мінулым тыдні, 8 лістапада, споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка Вацлава Ластоўскага.

Талент гэтага чалавека быў шматгранны – ён праявіў сябе як гісторык, пісьменнік, філолаг, літаратуразнавец, этнограф, але, у першую чаргу, як беларускі грамадскі і палітычны дзеяч.

Нарадзіўся ён у 1883 годзе ў засценку Калеснікаў Дзісенскага павета Віленскай губерні, цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці, у сям'і Юстына і Ганны Ластоўскіх. Зараз ад гэтага засценка, які знаходзіўся непадалёк ад вёскі Мацюкова, ужо амаль нічога не засталося, а ў той час такіх засценкаў было вельмі шмат на тэрыторыі былой Віленшчыны.

Цікава тое, што дакладнае месца нараджэння Вацлава Ластоўскага ўдалося ўстанавіць адносна нядаўна, яго лічылі ўраджэнцам як Мёрскага раёна, так і Браслаўскага. Але, дзякуючы супрацоўніцы Віцебскага мастацкага музея Людмілы Хмяльніцкай, якая адшукала ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь хросную метрыку Ластоўскага, мы зараз з поўным правам маем называць Вацлава Ластоўскага сваім земляком. Дарэчы, ахрышчаны ён быў 26 снежня 1883 года у Задарожскім касцёле.

У 1892 годзе бацькі аддалі Вацлава ў пачатковую школу ў Старым Пагосце, якую ён скончыў у 1894 годзе. Пасля была вучоба ў Дзісне, якую да канца жыцця Ластоўскі называў "маё роднае мястэчка". Родныя мясціны ён пакідае ў 1897 годзе. Вацлава цягнула да навукі, ён ездзіў вучыцца ў Рыгу і Пецярбург, але дыплома так і не атрымаў. Усе свае веды ён набыў дзякуючы няспыннай самаадукацыі. Ужо будучы акадэмікам, у графе "Адукацыя" ён напіша "хатняя".



Помнік Вацлаву Ластоўскаму ў Глыбокім на Алеі Славы.

Вацлаў Ластоўскі быў удзельнікам гістарычнага паседжання 25 сакавіка 1918 года, калі было абвешчана стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, адснежня 1919 года да красавіка 1923-га ён з'яўляўся яе прэм'ер-міністрам. Вельмі балюча перажываў Ластоўскі ўмовы Рыжскага міру, які падзяліў Беларусь на дзве часткі. Ён асуджаў як польскую палітыку на заходніх землях, так і савецкую – на ўсходніх. Ён пісаў: "У Савецкай Беларусі "Незалежная" Сацыялістычная Беларуская Рэспубліка не мае ні сваіх уласных грошай, ні свайго беларускага войска, ні сваёй асобнай беларускай пошты, ні сваіх чыгунак, ні прадстаўнікоў за граніцай. Якая ж незалежнасць, калі грошы ў руках маскалёў, войска ў маскальскіх руках, чыгунка і пошта ў іх і зносіны за граніцай у іх…"

У 1923 годзе Ластоўскі сыходзіць у адстаўку, не без удзелу сваіх "паплечнікаў". Ад гэтага часу ён жыве ў Коўне і займаецца навуковай і літаратурнай працай. Запрошаны Інбелкультам на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў лістападзе 1926 года, ён абіраецца старшынёй Графічнай камісіі, на якой выступае як прыхільнік кірылічнага шрыфту. Наколькі гэта рашэнне было правільным, можна спрачацца, але застаецца фактам, што тое, што зараз мы карыстаемся кірыліцай, шмат у чым заслуга і нашага земляка.

У красавіку 1927 года па запрашэнні ўрада БССР Вацлаў Ластоўскі пераязджае ў Менск, так тады называлася наша сталіца. Ён працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыкам кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце. У 1928 годзе Вацлаў Ластоўскі, не маючы нават дакумента аб сярэдняй адукацыі, становіцца акадэмікам Беларускай Акадэміі Навук.



Ён арганізоўвае этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі, падчас адной з якіх быў знойдзены Крыж Ефрасінні Полацкай. Але праца ў Акадэміі аказалася нядоўгай. 21 ліпеня 1930 года Вацлаў Ластоўскі быў арыштаваны па сфабрыкаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі», утрымліваўся ў турмах Масквы і Мінска, пасля быў высланы на 5 гадоў у Саратаў. Працаваў загадчыкам аддзела рэдкіх рукапісаў біблітятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Паўторна арыштаваны 20 жніўня 1937 года. 23 студзеня 1938 прыгавораны да расстрэлу «як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Па першым прысудзе рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988 года, па другім — 16 верасня 1958 года. Аднаўлены ў званні акадэміка Акадэміі Навук Беларусі ў 1990 года.

Юбілей Вацлава Ластоўскага прайшоў у Глыбокім незаўважна. Нам яшчэ трэба па сапраўднаму ацаніць палітычную і творчую спадчыну слаўнага сына глыбоцкай зямлі. Але ўжо добра тое, што ў Глыбокім у мінулым годзе пастаўлены бюст знакамітаму земляку, да якога кожны жадаючы можа прынесці кветкі, каб ушанаваць памяць Ластоўскага.

# Патрыярх Кірыл даў згоду на адкрыццё прадстаўніцтва Беларускага экзархата ў Маскве

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл згадзіўся з прапановай БПЦ па адкрыцці прадстаўніцтва Беларускага экзархата ў Маскве. Аб гэтым мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі паведаміў епіскапам БПЦ на пасяджэнні Сінода, паведамілі БЕЛТА ў Беларускім экзархаце.

«З радасцю паведамляю вам, што ў адказ на нашу просьбу Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл благаславіў адкрыццё прадстаўніцтва Беларускага экзархата ў Маскве», - сказаў мітрапаліт.

У экзархаце пакуль не паведамляюць, якія рашэнні былі прыняты на гэтым пасяджэнні Сінода БПЦ.

Акрамя таго, Патрыяршы Экзарх нагадаў, што ў 2014 годзе спаўняецца 700 гадоў з дня нараджэння прападобнага Сергія Раданежскага. «Многія з архіпастыраў і пастыраў нашай царквы духоўна ўзраслі каля мошчаў прападобнага ў Троіца-Сергіевай Лаўры. Нам неабходна падумаць аб дастойным святкаванні гэтай знамянальнай даты», – сказаў іерарх.

*БЕЛТА.*

# Кожны чацвёрты жыхар Беларусі – ва ўзросце ад 14 да 31 года

**Кожны чацвёрты жыхар Беларусі - малады чалавек ва ўзросце ад 14 да 31 года. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

**10 лістапада адзначаецца Сусветны дзень моладзі.**

На 1 студзеня бягучага года ў Беларусі пражывалі 2 млн. 238,9 тыс. чалавек ва ўзросце ад 14 да 31 года. Найбольш шматлікая ўзроставая група сярод моладзі - ва ўзросце 25-30 гадоў, колькасць якіх на пачатак гэтага года склала 930,1 тыс. чалавек (або 41,5 працэнта ў агульнай колькасць моладзі). Маладыя людзі ва ўзросце 20-24 гады складаюць 31,8 працэнта, 14-19 гадоў - 26,7 працэнта.

У гарадской мясцовасці пражывае 82,7 працэнта моладзі рэспублікі. Амаль 38 працэнтаў ад агульнай колькасці моладзі пражывае ў Мінску і Мінскай вобласці (847,1 тыс. чалавек).

Паводле даных перапісу насельніцтва 2009 года, у Беларусі доля маладых грамадзян ва ўзросце 25-30 гадоў, якія маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, склала 62 працэнта. У 2012/2013 навучальным годзе 26 працэнтаў маладых людзей атрымлівалі адукацыю ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай, вышэйшай і паслявузаўскай адукацыі. 3 590 тыс. студэнтаў 41 працэнт вучыліся за кошт сродкаў бюджэту. Па колькасці тых, хто атрымлівае сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю ў разліку на 10 тыс. насельніцтва (614 чалавек) Беларусь сярод краін СНД уступае толькі Казахстану (647 чалавек). Найбольш зацікаўлены ў атрыманні адукацыі дзяўчаты. Так, сярэднюю спецыяльную, вышэйшую і паслявузаўскую адукацыю атрымліваюць 28 працэнтаў ад агульнай колькасці дзяўчат і 22 працэнты - ад колькасці юнакоў.

Моладзь прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краіны. На 1 студзеня бягучага года ў рэспубліцы функцыянавала 248 маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў.

Для моладзі сям'я захоўвае сваю першарадную каштоўнасць. Для маладых людзей шлюб застаецца галоўным грамадскім інстытутам. У Беларусі за 2012 год ва ўзросце ад 14 да 31 года зарэгістравалі шлюб 58 тыс. 172 нявесты і 52 тыс. 486 жаніхоў. Большасць з іх стварылі сем'і ўпершыню.

Нараджэнне дзіцяці - важная падзея ў сямейным жыцці. У мінулым годзе ў жанчын ва ўзросце ад 14 да 30 гадоў нарадзіліся больш як 87 тыс. дзяцей, што складае 75 працэнтаў ад агульнай колькасці нованароджаных.

*БЕЛТА.*

# У 2014 захаваюцца дзейныя стаўкі падаткаў на дададзены кошт і на прыбытак

**У 2014 годзе захаваюцца дзейныя стаўкі падаткаў на дададзены кошт і на прыбытак, паведаміў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі Міністэрства фінансаў Алег Селіверстаў, выступаючы 12 лістапада ў Мінску на сумесным пасяджэнні некалькіх камісій Палаты прадстаўнікоў.**

У той жа час, адзначыў ён, будуць павялічаны стаўкі акцызаў на аўтамабільнае паліва — на 14%, тытунёвыя вырабы — ад 24 да 40%, мацаваную алкагольную прадукцыю — на 27,3%. Рост ставак па астатніх акцызах мяркуецца ў межах 20%.

Акрамя таго, паведаміў Селіверстаў, адна з прапаноў урада прадугледжвае ўвядзенне дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Паводле яго слоў, памер пошліны ўдакладняецца, ён можа скласці ад трох да пяці базавых велічынь у год.

*БелаПАН.*



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні.
*м. Германавічы.*

# Радасць і смутак дарог

**Працяг.**
*Пачатак у №44 (708), 45 (709).*

Пакінуўшы “Мужыка з панам” Роўдзе ў падзяку за гасціннасць, сяброўскае спрыянне, вясной 1935 года мастак зноў адправіўся ў падарожжа па Дзісеншчыне. Хадзіў ад вёскі да вёскі, ад засценка да засценка, з хутара на хутар, абмінаючы панскія двары і асадніцкія сядзібы. Ішоў з думкай зарабіць на хлеб і крыху аздобіць хату земляроба.

Жнівень і верасень правёў пад Шаркоўшчынай. Меў шмат заказаў у Казінцы. Як заўсёды, карыстаючыся з побыту ў новым месцы, агледзеў сярэдневечча – пабываў у Пілацкім бары каля Новага Пагоста, дзе, даўно чуў, ёсць гара Гарадзец. Гарадзішча аказалася невысокае. Перыметр – каля двухсот крокаў. Культурны пласт неглыбокі, з выразнымі слядамі колішняга жыцця, але не такі багаты, як у гарадзішчах пад Лужкамі і ля Залесся.

Характэрная для Шаркоўшчыны раўнінная мясцовасць невявала сум на мастака. Ён прывык да ўзгоркавых далягладаў. На ўзвышшах, як цяпер заўважыў, адчуваў сябе намнога лепей.

Пасля вандровак пад Новы і Стары Пагост выправіўся ў Германавічы, дзе ў добрых знаёмых мог крыху папрацаваць “для душы”. Напісаў некалькі пейзажаў: “Ноч над возерам”, “Зіма ў вёсцы”.

У Германавічах затрымаўся нядоўга. Выбраўся ў Летнікі, дзе цяпер стала закватараваў. Там быў рад дабрацца да сваіх “касмічных” палотнаў. Да “Артаполіса” і “Аргентоніі” дадаў “Піянеры Зямлі на Месяцы” і “Каналы Марса”. Схадзіў да брата ў Юркава, забраў фарбы, а па дарозе назад, калі давялося ўброд пераходзіць Лучайку, застудзіў ногі. Пару тыдняў не знаходзіў месца ад болю. Націранне не памагала і, каб не турбаваць гаспадара сваім начным тупаннем, сышоў у Новаполле да Янцэвічаў. Лячыўся, як ўсе сяляне спрадвеку – на гарачай чарэні печы і крапівай жыгучкай. Першы раз моцна задумаўся над тым, што без здароўя, без уласнага кутка можна зусім загінуць. “Захварэць – гэта значыць, адкінуць усякую працу і злегчы ў пасцель, але дзе, у чым і на якія сродкі?”

Акрыяўшы, ў канцы верасня мастак пайшоў працаваць у бок Красоўшчыны, на Задзісенне. Ішоў праз Германавічы. А там па даўняй завядзёнцы ў панядзелак – кірмаш. Кінулася ў вочы, што ледзь не на кожным возе ляжаць вязанкі лёну сёлетняга збору. Лён урадзіў, і сяляне хочуць выручыцца ім з безграшоўя. Купцы ж скупляюць яго за бесцань. Бачачы гэта, мастак са скрухай думаў, што сяляне не ўмеюць гуртавацца ў кааператыў, каб разам бараніцца ад беднасці, ад розных перакупшчыкаў, ліхвяроў. Тыя ж, як сляпні, роем кружаць над імі.



Я. Драздовіч. **Стадолішча,** 1918 г.

Радавала, што сяляне-гаротнікі неабыякавыя да свету: шчыра спачуваюць абісінцам, пра якіх першы раз у жыцці прачыталі ў газетах, абураюцца, наракаюць на фашысцкую Італію. Сам мастак моцна верыў у перамогу справядлівага пачатку, праўды ў жыцці. Не раз згадваў пачутае ў народзе: “Праўда ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне”. Нягледзячы на тое, што паняверкі праўды бачыў за сваё жыццё нямала, быў аптымістам. Хоць, па праўдзе кажучы, быць ім у тых умовах трэба было ўмець. Вось і цяпер зусім ужо абнасіўся. Спадзяваўся на Беларускі музей (у Вільні). Яшчэ летась адвёз у Вільню разьбаваныя партрэты Міхася Машары, Антона Грыневіча, Янкі Пачопкі, а пра плату не чуваць. Дырэктар, ён жа і адзіны супрацоўнік музея, жаліўся, што гэты год музей ледзь трывае…

Гады ляцелі, і мастак усё часцей задумваўся над сваім лёсам. Ажаніцца, мець сям’ю, магчы заняцца паважнай мастацкай працай – на гэта ён яшчэ не губляў надзеі. Жартаваў, гуляючы ў шахматы з Павалковічам, такім жа старым кавалерам, што трэба ім знайсці такіх жонак, каб у іх былі “хата ды і кароўка ў прыдатак”. Часам успаміналася пражытае. Яно і жаніцца як бы не было калі. Маладосць прайшла ў салдатах, не жартачкі – аж сем гадоў адслужыў бацюшку цару. А потым гады поўнай неўсталяванасці, беднасці. Не сказаць, што ніхто яго не любіў, не адказаў узаемнасцю. Яшчэ з часоў службы ў Вольску ляжалі цяпер у дарожным куфэрку пяшчотна-мройлівыя пісьмы сябравай сястры Серафімы. Ужо калі меў пад сорак, у Вільні па-юначы закахаўся ў гімназістку Жэнечку Казлоўскую, гожую, ласкавую, з далікатнай усмешкай. Аднойчы, апрануўшыся як найлепей, пастукаўся да Казлоўскіх.

Маці, аднак, аддаць дачку за чалавека нашмат старэйшага за яе меншую, да таго ж фактычна беспрацоўнага, не рашылася. Засталася ў Жэні Казлоўскай з таго часу памятка – яе партрэт: гожая дзявочая галоўка з какетліва надзетай шапачкай, на якой эмблема Віленскай беларускай гімназіі. Але і Вільня, і “ласкавая ластавачка” Жэня Казлоўская былі цяпер далёка. Амаль дзесяць год сплыло з тых мройна-далёкіх дзён 1926 года. Мастак падсумоўваў сваю працу і дні, сумна жартуючы: “Ад восені аж да самых каляд працаваў без пярэрвы, дэкаруючы сялянскія хаты сажонных памераў маляўнічымі дыванамі ў ваколіцы сяла Шкунцікаў. Намаляваў за гэты ўвесь час каля дзясятка іх. Адзін для Ніны чарнявай, адзін для Ніны чырвонай, адзін для Ніны малой (“Авулькі”), адзін для Ніны белакурай, адзін для Надзеі цыглястай, два для Надзеі акруглястай, адзін для Ліды (“Ай, не дурэй…”). Некалькі з ружовымі залаціста-махрыстымі занавескамі (ручнікамі) і пейзажамі пасярэдку, а рэшту з букетамі кветак ды арнаментам. Спадабаліся пашкоўцы. Не таргаваліся, “каб танней”. Казалі, “за што людзям, за тое і нам”, і ганарар плацілі не тады, калі збіраўся па канцы ўсёй работы ў вёсцы адходзіць, а загадзя, акуратна”.



Я. Драздовіч. **Вадзяны млын.**

Было перадзім’е. Зямля ўжо выстыла ў першых замаразках. Але снег яшчэ не лёг. Мастак прыкупіў на зробленыя грошы сёе-тое з прысмакаў хвораму брату, прыхапіў невялікі квяцісты дыванчык для Броні Шыпілянкі і падаўся ў Юркава. Брата застаў моцна заняпалым на здароўе. Апухлі ногі, дыхаў зусім цяжка. Хлопцы вазілі дзядзьку на ўколы да хірурга Шырана ў Лужкі. Цяпер нідзе дармавых амбулаторый не было і трэба было неяк умудрыцца выкраіць злоты на нятаннае лячэнне. Давялося прадаць сканструяваную калісь (Кастусь быў прыроджаным тэхнікам) трохвальцовую мялку і новую, уласнаручнай работы арфу. А надзеі, што лячэнне паможа, было няшмат. Да лекаў патрэбны былі і добрыя ўмовы. А якія там маглі быць людскія ўмовы ў маленькай, сырой, на падпорах хаціне бедака-запашніка!

Не мог пажаліцца мастак, што ўсё марным, беспатольным было цяпер у яго жыцці. Праўда, рэдка ўдавалася прарвацца да нечага такога, ад чаго ўвесь загараўся. Але, здаралася, і над дываном сэрца займалася радасцю, калі з-пад рукі паўставала хараство, суладдзе колераў і ліній. Звычайна аддаваў на кожны з іх дні тры працы. Спачатку накідваў контурам пейзаж. Яно быццам і нельга было без традыцыйнай экзотыкі. Але адмовіўся ад яе. Пераносіў на палатно штосьці з бачанага наўкол. Яшчэ тое-сёе падказвала ўяўленне. Маляваў старое гарадзішча, замак над возерам, стары млын, бачаны на Дзісенскай дарозе. На іншых яго дыванах дзяды-цымбалісты на лясной паляне самазабыўна ігралі нешта велічна-журботнае, можа, кантату пра адважных і мудрых палачан, пра далёкіх продкаў… Гадоў праз паўсотні, калі збудзецца пакрыёмная думка, надзея мастака (“мяне яшчэ пашукаюць”) і сцежкамі яго вандровак пройдуць маладыя беларускія жывапісцы і графікі, аднаму з гэтага “племя маладога, незнаёмага”, здаецца, Міколу Купаве, нагадаюць дываны дзядзькі Драздовіча старажытныя беларускія габелены. Нагадаюць па агульным выглядзе, каларыце, па духу. І гэта нягледзячы на рознасць тэматыкі і вялікую часавую адлегласць, гістарычную далячынь.

У аднастайным жыцці найбольш запаміналіся святы. Звычайныя земляробчыя святы, свае ў кожную пару года. Яны дзялілі клапатлівы год хлебароба на пэўныя адрэзкі часу. Напаўнялі жыццё нейкай духоўнасцю, асвячалі традыцыяй, мудрымі прыгожымі звычаямі, увагай да маці-зямлі, да памяці продкаў.

Найлепей святкавалася мастаку ў Летніках пад Лучайкай, у хаце Янкі Пачопкі. Ці то Новы год, ці Вялікдзень – спяшаўся мастак у Янкаву хату. Як ні любіў літаратуру Янка, а давялося вярнуцца дадому, да плуга. Не атрымаўся з яго пісьменнік – паклапаціліся паны пра гэта, - затое выйшаў някепскі гаспадар. Хлеб, мазольна запрацаваны, быў на стале. Было штосьці і да хлеба. У садзе стараліся, рупіліся пчолы. Недарэчы было б, каб яны не вадзіліся ў аўтара манаграфіі “Пчолы”, выдадзенай у Вільні ў 1923 годзе.

Сёлета Янка – атэіст – усхадзіўся святкаваць асяніны – асеннія дзяды. “Каго-каго, - прыгаворваў, - а дзядоў дык трэба памянуць”. Чакалі Звінячага (так звалі між сабой паэта Машару), а той штосьці не ехаў. Памянулі дзядоў без яго. Захмялелы гаспадар сыпаў жартамі і дасціпамі ўвесь вечар. Згадалі бацькоў, мінулае.

А Новы 1936 год сустракалі ўжо разам. Паэт прыехаў з жонкаю. Чыталі старыя рукапісы Янкі, знойдзеныя на гарышчы і пісаныя ў часы Грамады ў Вільні. Міхась на гэты раз не прыдзіраўся да мастака за яго захапленне космасам, не кпіў з яго касмічных фантазій. Панаваў агульны лагодны настрой.

Але святы хутка скончыліся. Цяг жыцця ў асноўным складалі будзённыя дні. Даводзілася перабірацца са сваімі мастакоўскімі прыладамі з Папкоў у Баяршчыну. Потым зноў праз Дзісёнку ў Папкі, а далей – у Погары, а там на Ліпаўскія і Гуркаўскія хутары і так аж да самай вясны. А ў Летніках ужо Янка непакоіўся, будучы ў Таболах у Міхася, ці хоць жывы дзе Язэп, ці не ўсунуўся часам у Дзісенку пад лёд. Драздовіч між тым давяраў дзённіку запаветнае, жаліўся, як сябру брату: “Шчаслівы той, хто мае часу на вольную творчую працу. Хто пры гэтым здаровы і без клопату аб заўтрашнім дні. Хто не мае патрэбы прадаваць свой час на грош дзеля хлеба”.

Мастак паказаўся ў Летніках на святы, каб сябры маглі перш-наперш упэўніцца, што ён жывы і здаровы. Збіраліся з Янкам на другі дзень адведаць паэта ў Таболах, але пад перазвон жаўруковых званочкаў у палях дайшлі толькі да Шкунцікаў ды вярнуліся дахаты.

Апошнім часам мастак зноў узяўся за паэтычнае пяро. Напісаў верш пра долю старога салдата, складаў паэму “Трызна мінуўшчыны” пра старажытную Полаччыну з яе вечам, славаю і ўпадкам. Агледзіны гарадзішчаў, іх вывучэнне абуджалі творчае ўяўленне. І радкі літаратурных твораў складаліся, запісваліся сярод дзённікавых памет. Як гэта “Водгулле вечавога звону”:

Сабірайся, народ,
Гууў-га!
На ізбор, на сход,
Гууў-га!
Будзем радзіць, судзіць,
Гууў-га!
Як свой край бараніць,
Гууў-га!
Бо ўжо вораг ідзець,
Гууў-га!
Смерць і голад нясець,
Гууў-га! …

“Водгулле вечавога звону”, як і “Стары салдат”, былі пасланы ў рэдакцыю часопіса “Калоссе”, але адказу не было. Думаў, што, можа, рукапісы загінулі дзесь на пошце, потым з горыччу: забываюць…

Моцна не крыўдаваў. Але калі Максім Танк прыслаў адказ з крытыкай паэмы “Трызна мінуўшчыны” за апісальнасць, не ўтрымаўся, напісаў вялікі ліст “Майму крытыку” і да яго далучыў некалькі з’едлівых шаржаў на паэта.



Я. Драздовіч. **Мястэчка Глыбокае. Выгляд на Траецкі касцёл з Кармеліцкага саду.** 1925 г.

**Крыніца:** Арсень Ліс **“Вечны вандроўнік”**

*Працяг на стар.11*

